**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№3(667)**
**17 студзеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Зімовы дзень. Скупою меркай
Жыццё адлічвае хвіліны.
Глядзіцца ў цьмянае люстэрка
Замерзлай лужы – куст шыпшыны.

А свет такі надзіва белы,
Бы чысціня адна на свеце.
Самотна дрэмле сад згалелы,
На плот паклаўшы рукі-вецце.

Іду. І ў цішы крок нямее.
Чуцён скрып снегу пад нагамі.
Цалуе рукі, твар – завея,
Чароўнай ласкай, дзівам-снамі.

*Анатоль Дэбіш. Зіма.*

*Фота Ул. Скрабатуна.*

Экспрэс-інфармацыя

## Памятайце: пажар лягчэй прадухіліць, чым яго тушыць!!!

01 студзеня 2013 года ў Глыбоцкім раёне ў г.п. Падсвілле адбыўся пажар, на якім загінуў гр. К. Падчас праведзенай праверкі ўсталявана, што найболей верагодная прычынай пажару стала парушэнне правіл пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі самаробнага электрычнага абагравальніка.

Інспекцыя дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага РАНС паведамляе, што ў мэтах недапушчэння пажараў і гібелі на іх людзей неабходна:

● выконваць асцярожнасць пры абыходжанні з агнём – усякі нядбайна кінуты недакурак ці запалка могуць выклікаць пажар ці згубу людзей;

● увесь час утрымоўваць у справўным стане печкавы апал, электраправодку, разеткі, выключальнікі і іншыя электрапрыборы;

● не пакідаць у хаце дзяцей адных без нагляду сталых. Захоўваць запалкі ў недаступных для дзяцей месцах;

● ва ўсіх жылых памяшканнях усталяваць аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі (АПИ) і ўвесь час кантраляваць іх працаздольнасць (па пытаннях набыцця і ўсталёўкі АПИ звяртацца па тэл.: 2-63-37).

*Інспекцыя дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях.*



## МНС інфармуе

**на 15.01.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 58;
Гібель людзей – 10, з іх 0 дзяцей;
Урон – 222.1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 2;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 2 000 000 руб.

**Пастаўскі раён**

## Без дзяржпадтрымкі – банкроты

■ **Кастусь Александровіч**

**Ніводная з галін айчыннай гаспадаркі не атрымоўвае гадамі такой шчодрай дзяржаўнай падтрымкі, як беларускі АПК.**

Вось і ў Пастаўскім раёне толькі летась мясцовым калгасам з абласнога бюджэту было выдзелена 82 млрд. рублёў і яшчэ 2 мільярды дапамогі выдзеліў мясцовы бюджэт. Аднак па выніках года тут нават 5 з існуючых зараз 15 сельгаспрадпрыемстваў знізілі вытворчасць валавай прадукцыі ў параўнанні з 2011 годам. Паколькі шмат дзе, як і раней, пануе безгаспадарчасць, не захоўваюцца тэхналогіі, то трэць з іх з вялізнымі стратамі сталі б чарговымі банкротамі без дзяржпадтрымкі. Аднак у нас гэтага не дапускаюць, хоць у ААТ “Вярэнькі-агра” , “Блакітныя азёры” і 20 цэнтнераў збожжа з гектара не могуць сабраць, а ў многіх калгасах надоі малака і прывагі мяса – проста мізерныя. На Пастаўшчыне толькі лідар сярод вяскоўцаў ААТ “Хацілы-агра” ў аднолькавых умовах дзейнасці мае патрабуемы цяпер узровень выручкі на аднаго работніка – 30 тысяч долараў. Тут па надоях малака дасягнулі ўзроўню амаль 6500 літраў і ўжо ў 3 разы адарваліся ад адстаючых, а раён доіць меней 3600 кг на карову. Летась агульнымі намаганнямі правялі рэканструкцыю 13 малочнатаварных ферм, але меней нарыхтавалі травяністых кармоў з-за зніжэння амаль на 100 цэнтнераў з гектара ўраджайнасці зялёнай масы кукурузнага сіласу. З-за нізкай эфектыўнасці гаспадарання шэраг гаспадарак адчуваюць цяжкасці з выдачай зарплаты.

**Браслаўскі раён**

## У азёрнага краю – свой брэнд

■ **Станіслаў Раманчук**

**Нідзе ў Беларусі няма столькі прыгожых блакітных азёр і радуючых вока мясцін з узгоркамі і лясамі вакол іх, як у Браслаўскім раёне.**

Невыпадкова яшчэ ў 1970 годзе мінулага стагоддзя тут стварылі зону адпачынку рэспубліканскага значэння. У гэты самы азёрны край, які нагадвае сусветна знакамітую Фінляндыю, яго кіраўніцтва прыкладае намаганні яшчэ болей прыцягнуць турыстаў. З такой мэтай нядаўна ў раёне правялі конкурс па стварэнні маляўнічай эмблемы-лагатыпу азёрнага краю і запамінальнага слогана Браслаўшчыны. Яго пераможцам стаў мясцовы выкладчык дадатковай адукацыі раённага цэнтра дзяцей і моладзі Міхаіл Ставіцкі, які лепш за ўсіх справіўся з задачай. У выніку на фоне залацістых промняў сонца на лагатыпе раёна з’явіліся рэльефы блакітных азёр і бягучых па іх хваль паблізу ўзгорыстых пагоркаў ля пясчаных выспаў. Малюнак глядзіцца прыгожа і запамінаецца, як і брэндслоган: “Браслаўскія азёры: у адпачынку ёсць імя”. Ёсць падобная эмблема і на рускай мове. Далей слоган і лагатып браслаўчане пачнуць размяшчаць на розных сувенірах, шматлікай рэкламнай прадукцыі, у матэрыялах сродкаў масавай інфармацыі. Дарэчы, на Браслаўшчыне варта пабываць хоць раз у жыцці кожнаму беларусу, бо менавіта тут найбольш выяўна прадстаўлены ледніковыя формы рэльефу, гарадзішчы эпохі Кіеўскай Русі, а таксама шматлікія помнікі архітэктуры XVIII- пачатку XX стагоддзя. Аматары гісторыі знойдуць шмат цікавага пры знаёмстве з экспазіцыямі мясцовага музейнага аб’яднання.

**Мёрскі раён**

## Балоты трэба ратаваць

■ **Чэслаў Якубовіч**

**За савецкім часам прэстарэлае кіраўніцтва толькі радавалася, што асабліва ў БССР актыўна праводзіцца масавая меліярацыя балот.**

І толькі цяпер высветлілася, што – гэта не проста глупства, а экалагічная пастка, калі летам і вясной на Палессі бываюць пясчаныя буры і даволі моцныя замаразкі. На шчасце, у гэтым плане Віцебшчыне пашчасціла болей, паколькі амаль палова верхавых балот краіны ў нас захаваліся і таму ачышчаюць такія лёгкія найлепей атмасферу ў Прыдзвінні. Толькі ў Мёрскім раёне больш 32 тысяч гектараў тэрыторыі пад балотамі, сярод якіх буйнейшы ў Еўропе ўнікальны гідралагічны заказнік “Ельня”. Аднак і багацейшаму прыроднаму помніку з астаткамі пасляледніковай тундры і з дзясяткамі відаў раслін і жывёл з Чырвонай кнігі Беларусі сур’ёзна перапала ад неразумнай дзейнасці суайчыннікаў. Вакол Ельні таксама знаходзяцца дзясяткі прарытых раней меліярацыйных каналаў, якія проста шкодзяць мясцовай экалагічнай сістэме. З балоцістай мясцовасці часткова зышла вада, больш чвэрці масіва балот моцна пашкодзілі два сур’ёзныя вялізныя пажары ў пачатку стагоддзя, калі гарэлі дзясяткі тысяч гектараў. Праўда, намаганнямі валанцёраў пры садзеянні адной з праграм ААН апошнім часам пабудавалі каля 40 плацін на балоце і на ягонай рэчцы. Аднак гэту працу неабходна працягваць і надалей і сам няпросты працэс аднаўлення нармальнага гідралагічнага рэжыму расцягнецца на многія гады.

# Аб самым надзённым

## ГЭТЫ ГОД БУДЗЕ СКЛАДАНЫМ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ, БО ЗАГАВАРЫЛІ АБ СУР’ЁЗНЫХ КАРЭКТЫВАХ САЦЫЯЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ



■ **Аляксандр Цішкевіч**

**Мы ўвогуле болей павінны ўсведамляць сваю асабістую адказнасць за свой дабрабыт, узровень жыцця, спадзявацца толькі на сябе і перастаць быць нахлебнікамі ў дзяржавы. Дарэчы, каля мільёна беларусаў так і робяць, праўда, зарабляюць насвой хлеб надзённы яны ўжо на замежных прасторах. А калі гаварыць зусім сур’ёзна, то наступіўшы год будзе складаным для ўсіх.**

У першую навагоднюю ноч тыя суайчыннікі, якія яшчэ любяць глядзець айчынныя тэлеканалы, даведаліся, што беларусы – вельмі багатыя людзі і павінны думаць пра сваю будучыню з упэўненасцю. Аднак вось бяда, чамусьці з кожным пражытым годам рабіць гэта нам наўпрост становіцца ўсё цяжэй. Новы 2013 год толькі пачаўся, як пасля святочных застолляў, салютаў і феерверкаў даволі сур’ёзна павысіліся цэны на сотавую сувязь і Інтэрнэт. Ды і каб гэта было адно такое непрыемнае падаражанне (толькі ў пасляховым 2006 годзе інфляцыя ў Беларусі была меней 10 %).

Дарэчы, хто забыўся, рост цэн у адышоўшым годзе склаў у Беларусі 21,7 %, хоць, як кажуць, нямала рабілася для развіцця нашай дзяржавы і сабралі небывалы ўраджай збожжа. А як жа інакш: жывём жа мы спакойна ды яшчэ сваім розумам, не збіраемся, як быццам і надалей, капіраваць бяздумна чужыя мадэлі. На ўвазе, пэўна меліся, праклятыя буржуіны з таго ж Еўрасаюза, дзе гадавая інфляцыя ў крызіс склала летась 2,4 %. Не вельмі нашаму кіраўніцтву да спадобы і расійскія эканамічныя рэаліі, у якіх спажывецкія цэны за год выраслі яшчэ на 6 %, а ў нашых яшчэ адных партнёраў па Мытнаму саюзу, братоў казахаў – яшчэ меней на 5,3 %.

У сваю чаргу нам трэба ганарыцца, што сталі касмічнай дзяржавай і замахнуліся на будаўніцтва сваёй роднекай АЭС. І таму не трэба засмучацца, што сёлета з 1 студзеня для беларусаў таксама падаражэлі цыгарэты, бензін, алкаголь, камунальныя паслугі, крыху пазней стаў даражэйшым праезд у цягніках. І гэта пры тым, што за 2012 год рэспубліканскі бюджэт склаўся з прафіцытам, пераўвышэннем даходаў над расходамі. Ну, ніяк не разумею такія вось парадоксы жыцця-быцця па-беларуску. Але самае цікавае, што міжволі нас рыхтуюць маральна да новых цяжкасцей і выпрабаванняў, хоць і абяцаюць, што у Год беражлівасці ўлада не будзе эканоміць на людзях, а да прыкладу, на электраэнергіі.

Ужо да чаго мы дажыліся, штоадкрытагаворацьвуснамі таго ж віцэ-прэм’ера Анатоля Тозіка, што ў адукацыі і спартыўнай галіне да 25-30 % бюджэтных сродкаў траціцца абсалютна неапраўдана, у сферы аховы здароўя і культуры крыху разумней – толькі 15-20 % непатрэбных расходаў. Увогуле вылічылі, што ў лістападзе беларусы зараблялі ў сярэднім па 4,244 млн. рублёў, але па парытэту пакупніцкай здольнасці на аснове быццам методыкі ААН сярэдняя заработная плата, (радуемся і пляскаем у ручкі) , наша ўжо перавысіла 1200 долараў. І гэта на поўным сур’ёзе сцвярджае віцэ-прэм’ер, не апошні чалавек ва ўрадзе РБ.

Мы ўвогуле болей павінны ўсведамляць сваю асабістую адказнасць за свой дабрабыт, узровень жыцця, спадзявацца толькі на сябе і перастаць быць нахлебнікамі ў дзяржавы. Дарэчы, каля мільёна беларусаў так і робяць, праўда, зарабляюць на свой хлеб надзённы яны ўжо на замежных прасторах. А калі гаварыць сур’ёзна, то наступіўшы год будзе складаным для ўсіх. Вось аналітыкі МВФ, якія не хоча даваць нам новых крэдытаў, прама гаворачь, што намечаны у вярхах рост ВУП на 8,5 % сёлета пры закладзенай інфляцыі 12 % - гэта папулісцкі, неажыццявімы рубеж.

Да таго ж у гэтым годзе нашай краіне прыйдзецца ў 2 разы болей, чым летась, выплаціць даўгоў па ранейшых замежных крэдытах. Ды і як так рэзка можна сёлета стартануць і за кошт чаго, калі, давайце гаварыць шчыра, летась беларуская эканоміка наблізілася ўжо да парога стагнацыі. Мадэрнізацыя абяцаная ў астатніх айчынных прадпрыемствах будзе ў рэальнасці ісці прыкладна так, як раней у канцэрнах “Беллеспаперапрам” і “Беллегпрам”. А вось што дакладна ведама: у 2013 годзе гаспадары здымных кватэр сталі плаціць больш на 22 % падатак.

У паўсядзённым жыцці такіх кватэр стане проста меней, іх кошт вырасце яшчэ болей. А і так дарагі ў нас кошт таго ж навучання ў ВНУ, не хапае месц у студэнцкіх інтэрнатах і цэны, бадай на ўсё навокал, адны з самых высокіх у Еўропе. Жывём мы ў беднай, па мерках нават бліжэйшых суседзяў, дзяржаве. А пакуль слухаем і на рэгіянальным узроўні казкі пра заробкі да канца года ў памеры 750 долараў. І нават калі развядзём масава ў раёнах вобласці авечак, атрымаем воўну, а астатнія закупім на знешніх рынках – чарговага беларускага “эканамічнага цуда” нашай нацыі сёлета не дачакацца, можна не сумнявацца.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 17.01.13 | | | | Пятніца 18.01.12 | | | | Субота19.01.13 | | | | Нядзеля 20.01.11 | | | | Пнд21.01.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -7 | -5 | -7 | -8 | -12 | -11 | -12 | -12 | -14 | -13 | -12 | -12 | -13 | -9 | -9 | -10 | -15 | -14 | -15 |
| Ціск | 742 | 741 | 743 | 745 | 747 | 748 | 748 | 749 | 748 | 747 | 746 | 744 | 743 | 740 | 739 | 739 | 740 | 741 | 744 |
| Вільготнасць | 96 | 94 | 87 | 86 | 89 | 88 | 85 | 87 | 90 | 88 | 85 | 87 | 89 | 94 | 89 | 90 | 91 | 91 | 77 |
| Вецер м/сек | 6 Пн-У | 6 Пн-У | 7 Пн-У | 6 Пн-У | 5 Пн | 4 Пн | 4 Пн-У | 3 Пн-У | 3 Пн-У | 3 У | 3 У | 3 У | 2 У | 2 Пд-У | 1 Пн-У | 2 Пн | 2 Пн | 3 Пн-У | 7 Пн-У |

## Дзень за днём

**Пры нізкім афіцыйным ўзроўні беспрацоўя ў Беларусі ў 2012 годзе яшчэ на 35 тысяч чалавек знізілася колькасць працуючых на вытворчасці. Для беларусаў плануюць увесці дыферэнцыраваныя тарыфы за спажыванне насельніцтвам электраэнергіі. Як і чакалася, на 20 % з 1 студзеня павысіліся цэны на цыгарэты, паліва, паслугі "Белтэлекама", выраслі тарыфы на паслугі ЖКГ і іншыя цэны пасля іх акруглення да 50 рублёў перад выводам з абароту дробных купюр 10 і 20 рублёў. А вось зарплату ў бюджэтнай сферы павысілі ў сярэднім толькі на 6,7 %, пенсіянераў засмуціла, што ў лютым пенсіі ім не павысяць, як летась. У краіне не павінна застацца не ўмеючых плаваць дзяцей, таму ў кожным райцэнтры павінен з'явіцца хоць бы адзін басейн.**

## Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Яшчэ адзін генерал, начальнік ваеннай паліцыі Абдул Шапаль збег ад Б. Асада ў Турцыю і заявіў, што яго армія пераўтварылася ў банду забойцаў свайго народа.

**Расія.** Дарадца прэзідэнта РФ С. Глаз'еў заявіў, што ў рамках Еўразійскага эканамічнага саюза з Казахстанам і Беларусі не будзе адзінай валюты, гэта пытанне неактуальнае.

**Карэя.** Упершыню ў гісторыі прэзідэнтам стала жанчына Пак Кын Хе,прадстаўніца правячай кансерватыўнай партыі "Сенуры", яе бацька 16 гадоў плёна кіраваў краінай.

**Азербайджан.** Прэзідэнт Ільхам Аліеў памілаваў 80 асуджаных, з іх многіх Савет Еўропы прызнаў палітычнымі вязнямі, аднак у турмах засталіся яшчэ дзясяткі такіх зняволеных.

**Чэхія.** Чэшскі прэзідэнт Вацлаў Клаус звольніў новага міністра абароны Караліну Пік праз тыдзень пасля прызначэння яе на пасаду, яна пачала бурныя кадравыя перастаноўкі.

**Кітай.** Да дня нараджэння Мао Цзедуна запусцілі самую працяглую ў свеце (2298 км) высакахуткасную чыгунку Пекін-Гуанчжоу, цягнікі развіваюць хуткасць 300 км/гадзіну.

**Украіна.** Сёлета, як заявіў міністр абароны П. Лебедзеў, краіна адмовіцца ад прызыву ў армію і пачне камплектаваць свае прафесіянальныя войскі выключна па кантракце.

**Расія.** Кіраўнік прафсаюзаў РФ М. Шмакаў ад імя 89 прафцэнтраў з 55 краін Еўропы і Азіі заклікаў А. Лукашэнку адмяніць дэкрэт № 9, інакш пагражае жорсткімі санкцыямі.

**Індыя.** Каля 700 абураных рабочых чайнай плантацыі ў правінцыі Асам спалілі вечарам свайго начальніка разам з яго жонкай і падпалілі яшчэ 2 аўтамабілі кіраўніцтва фабрыкі.

**Японія.** Сёмым па ліку прэм'ер-міністрам за апошнія 6 гадоў зноў стаў 58-гадовы Сіндза Абэ, ён мае намеры вывесці нарэшце 3-ю па моцы эканоміку ў свеце з зацяжнога крызісу.

**Англія.** Стваральнік сайта Wikileans 41-гадовы Джуліан Асанж з балкона эквадорскага пасольства ў Лондане паабяцаў апублікаваць сёлета яшчэ 1 млн. скандальных дакументаў.

**Сірыя.** Падчас сямейнай спрэчкі 40-гадовы ўладальнік магазіна адзення ў горадзе Алепа, застрэліў сваю рускую жонку за падтрымку Башара Асада, якога ён люта ненавідзеў.

**Казахстан.** Медэўскі раённы суд Алма-Аты забараніў выпуск быццам "экстрэмісцкай" апазіцыйнай газеты "Голас рэспублікі" і яе інтэрнэт-рэсурсаў, яна друкавалася ў Маскве.

**Узбекістан.** Падчас кампаніі па ачыстцы ўзбекскай культуры ад савецкага і расійскага ўплыву ўлады краіны забаранілі паказваць на тэлеэкранах Дзеда Мароза са Снягуркай.

**КНДР.** У эфіры дзяржаўнага тэлеканала паказалі абноўлены комплекс-маўзалей дынастыі Кімаў, без кадраў забальзаміраванага цела Кім Чэн Іра, яго выставілі праз год пасля смерці

## Прадстаўнік Фюле: ЕС запрасіў Беларусь пачаць перамовы аб пераглядзе пагадненняў для аблягчэння атрымання шэнгенскіх віз



ЕС запрасіў Беларусь пачаць перамовы аб візавай падтрымцы і пераглядзе пагадненняў з мэтай аблегчыць беларускім грамадзянам наведванне Еўрасаюза. Аб гэтым гаворыцца ў лісце з кабінета камісіі камісара Еўрасаюза па пашырэнні і добрасуседстве Штэфана Фюле ў адказ на зварот старшыні аргкамітэта рэспубліканскага грамадска-асветніцкага аб'яднання «Сацыял-дэмакраты за дыялог і кансалідацыю» Анатоля Ляўковіча. У ім выкладаліся асноўныя ідэі стратэгіі «За дыялог і кансалідацыю».

Як заявіў прадстаўнік ЕС, паляпшэнне візавай падтрымкі заклікана садзейнічаць кантактам паміж грамадзянамі Беларусі і Еўрапейскага саюза. «З-за адсутнасці адказу ад беларускіх уладаў краіны — удзельніцы ЕС цяпер выкарыстоўваюць існуючую гнуткасць, якую дазваляе віза ЕС, што дае магчымасць аблегчыць атрыманне віз для насельніцтва. Мы ўзмоцнена працуем разам з краінамі — членамі ЕС над пытаннямі аб візах доўгага знаходжання і відаў на жыхарства ў адпаведнасці з нацыянальнымі законамі», — гаворыцца ў лісце.

Прадстаўнік ЕС згадзіўся з Ляўковічам у тым, што для будучыні Беларусі «неабходна выбудаваць моцную плюралістычную лінію ў палітыцы, падтрымліваць усе каналы зносінаў адкрытымі і ўцягваць усе бакі ў канструктыўны дыялог». «Менавіта беларускі народ праз уцягванне ў дэмакратычны працэс зможа мадэрнізаваць сваю краіну», — гаворыцца ў лісце.

Прадстаўнік ЕС таксама выказаў надзею, што беларускія ўлады хутка далучацца да дыялогу аб мадэрнізацыі. Гэты дыялог з беларускім грамадствам Фюле пачаў у канцы сакавіка 2012 года. Ён складаецца з абмену меркаваннямі і ідэямі паміж прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі, з аднаго боку, і ЕС — з іншага. У прыватнасці, абмяркоўваюцца неабходныя рэформы для мадэрнізацыі Беларусі і развіццё адносінаў з ЕС.

«Парадак дня прапанаваны прадстаўнікамі беларускага грамадства, улічваючы патрэбы беларускіх грамадзян. Дыялог знаходзіць шырокі водгук у беларускіх СМІ, і мы спадзяемся, што гэта садзейнічае больш плённым абмеркаванням у Мінску і на рэгіянальных узроўнях», — гаворыцца ў лісце.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік зноў заявіў, што ў Беларусі пытанне аб павышэнні пенсійнага ўзросту (55 і 60 гадоў) знята і ў бліжэйшы час нават абмяркоўвацца не будзе.

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" для буйнейшай у свеце кампаніі "Уралкалій", як заявіў яе гендырэктар У. Баумгартнер, не з'яўляецца прадказальным і празрыстым партнёрам.

**Ветка.** Гомельскі абласны суд пакараў 2 гадамі турмы загадчыка адной з ферм раёна, які прыйшоў дамоў і збіў ударамі кулака і ног свайго п'янага падначаленага за прагул.

**Мінск.** Пасол РФ А. Сурыкаў абурыўся, што ў РБ інтэлігенцыя не лічыць вайну 1812 года "айчыннай", улады маўчаць з гэтай нагоды, шмат беларусаў ваявала на баку Напалеона.

**Смаргонь.** Па сваёй дурасці загінуў 45-гадовы жыхар райцэнтра на вачах жонкі, калі вечарам на спрэчку лёг пасля застолля ў цэмры на дарогу ў вёсцы і трапіў пад колы аўто.

**Мінск.** Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі выказала абурэнне паказам у эфіры тэлеканала "Беларусь-1" ілжывага рэпартажу пра Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі.

**Калінкавічы.** На пешаходным пераходзе паблізу школы ў райцэнтры 12-гадовую дзяўчыну збіў нягоднік за рулём, калі яна пераходзіла дарогу на зялёнае святло пасля заняткаў.

**Мінск.** Камітэт па правах чалавека ААН пачаў разгляд скаргі студэнткі Майі Абрамчык, якую так жорстка збіў АМАП 19 снежня 2010 года, што ёй зрабілі 3 аперацыі на назе.

**Стаўбцы.** У райаддзеле міліцыі пачалі дадатковую праверку, якім чынам у ізалятары часовага ўтрымання маглі памерці днём адразу два мужчыны ва ўзросце 51 і 24 гады.

**Гомель.** Каардынацыяй духоўнага жыцця каталікоў вобласці стаў намеснік прысланы з Пінска ўпершыню свой біскуп Казімір Велікаселец, раней такога святара тут не было.

**Мінск.** У новым расійскім серыяле "Паляванне на гаўляйтара", знятым з удзелам "Беларусьфільма", чамусьці на беларускай мове гавораць толькі паліцаі і прастытуткі.

**Магілёў.** Гарадскі гістарычны музей набыў за 5 тысяч сабраных еўра рэдкую кнігу "Вялікае мастацтва артылерыі" Казіміра Семяновіча 1676 года выдання, яна ў экспазіцыі.

**Дзятлава.** Па гарачых слядах міліцыя раскрыла абрабаванне касцёла вёскі Дварэц, дзверы храма ўзламаў і вынес рэчаў на 17 млн. рублёў 43-гадовы беспрацоўны з дыпломам ВНУ.

**Рэчыца.** Позні начны пажар знішчыў поўнасцю дах сельскага Дома культуры ў вёсцы Капораўка, агонь таксама спаліў і перакрыцці столі на плошчы 30 квадратных метраў.

**Мінск.** Знакамітая плыўчыха А. Герасіменя прызналася, што ёй бліжэй еўрапейскі, а не прарасійскі вектар развіцця Беларусі, як і бел-чырвона-белы сцяг і слаўная гісторыя Вялікага Княства Літоўскага.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Амаль 500 млрд. рублёў не хапала ў раёнах вобласці напрыканцы снежня, каб дасягнуць паабяцанага прэзідэнту ўзроўня сярэднямесячнай зарплаты 580 долараў.

**Наваполацк.** Каб падтрымаць дзяржбюджэт, урад РБ загадаў дырэкцыі ААТ "Нафтан" дадаткова пералічыць у Фонд нацыянальнага развіцця яшчэ 600 мільярдаў рублёў (70 мільёнаў долараў).

**Полацк.** Мясцовы малочны камбінат разам з калегамі з Оршы і Віцебска і Аршанскім мясакансервавым камбінатам увайшлі ў 10-ку самых праблемных у РБ са стратамі 196 млрд.

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь", які знаходзіцца ў складанай эканамічнай сітуацыі, даручылі ратаваць намесніку гендырэктара канкурэнта з холдынга "Гарызонт" Сяргею Гунько.

**Мёры.** На сесіі абласвета дэпутатаў у праекце бюджэту на 2013 год зацвердзілі сумы асігнаванняў, неабходных для здачы сёлета доўгабуда – новай райбальніцы ў райцэнтры.

**Глыбокае.** Вясной сёлета на базе бальніцы ў гарпасёлку Падсвілле плануецца адкрыць хоспіснае аддзяленне для невылечна хворых людзей, сюды даставілі мэблю з Германіі.

**Віцебск.** Кандытарскі камбінат "Віцьба" пачаў выпуск прынцыпова новых прадуктаў – ржаных падушачак "Сальков" і падушачак "Забота" на фруктозе для дыябетыкаў.

**Паставы.** На прадпрыемстве "Паставымэбля" пачалі выпуск і мяккай мэблі, канап трох відаў услед за драўлянымі зрубамі, запусцілі сушыльныя камеры італьянскай фірмы.

**Дуброўна.** Міліцыя затрымала жыхарку вёскі Пневічы з сужыцелем, якія займаліся адкрыта сэксам пры 7- і 8-гадовых дочках, якія здымалі пасцельныя оргіі на мабільнік.

**Віцебск.** У відэазвароце дзіцячы ўрач Ігар Постнікаў, які страціў працу, раскрытыкаваў працу кіраўніка вобласці за "паказуху", нерацыянальнае расходванне сродкаў бюджэту.

**Талачын.** На падпітку 38-гадовы жыхар вёскі Зялёны Бор кіраваў мікрааўтобусам і на чыгуначным пераездзе сутыкнуўся з дызель-поездам Орша-Магілёў, людзі не пацярпелі.

**Віцебск.** Святы сінод Беларускай праваслаўнай царквы вырашыў устанавіць ля Свята-Успенскага кафедральнага сабора абласнога цэнтра помнік былому Патрыярху Алексію II.

**Сянно.** За жорсткае забойства свайго земляка суд асудзіў траіх маладых хлопцаў з вёскі Алёхнава на 17,3 і 15,5 гадоў пазбаўлення волі, 15-гадоваму падлетку далі 8 гадоў турмы.

**Бешанковічы.** Днём на дарозе з райцэнтра на Чашнікі ля вёскі Вярхоўе мікрааўтобус сутыкнуўся з іншамаркай, вадзіцеля якой з траўмамі даставілі з дапамогай спецгідраўлікі.

**Мёры.** Мясцовы футбольны клуб не знайшоў паразумення з кіраўніцтвам раёна і спыніў дзейнасць, у 2-ій лізе чэмпіянату РБ ён заняў 16-е месца, згуляў лепш Оршы, Віцебска.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Чатыры газеты будуць аб'яднаныя з «Советской Белоруссией»

Адпаведнае распараджэнне «Аб некаторых пытаннях рэарганізацыі асобных рэдакцый сродкаў масавай інфармацыі» ад 10 студзеня 2013 г. падпісана прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам і кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Андрэем Кабяковым, паведаміў БЕЛТА ў Адміністрацыі Прэзідэнта.

У адпаведнасці з дакументам, планууецца правесці рэарганізацыю устаноў «Рэдакцыя газеты «Рэспубліка» і «Рэдакцыі газеты «Беларуская ніва» шляхам іх далучэння да ўстановы Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия».

Міністэрству інфармацыі даручана на працягу 15 дзён унесці на разгляд урада праект адпаведнай пастановы.

Міністэрству адукацыі даручана да 20 студзеня 2013 г. прыняць рашэнне аб рэарганізацыі ўстановы «Рэдакцыя газеты «Знамя юности» шляхам яго далучэння да «Советской Белоруссии».

Акрамя таго, Мінінфарму даручана ініцыяваць разгляд на пазачарговым агульным сходзе акцыянераў ААТ «Народная газета» пытанняў перадачы функцый рэдакцыі газеты «СБ» і ліквідацыі гэтага таварыства. Кантроль за выкананнем распараджэння ўскладзены на Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі.

*БелТА*

# Закон «Аб камерцыйнай таямніцы» ўступіць у сілу ў ліпені 2013 года

**Закон «Аб камерцыйнай тайне» ўступіць у сілу ў ліпені 2013 года. Аб гэтым паведамілі ў Дзяржаўным камітэце па навуцы і тэхналогіях.**

Дакумент падрыхтаваны на аснове канцэпцыі, распрацаванай Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых даследаванняў Беларусі сумесна з зацікаўленымі дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі. У падрыхтоўцы закона ўдзельнічалі прадстаўнікі Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях, Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці, Міністэрства эканомікі, Міністэрства юстыцыі і інш.

Прадмет рэгулявання закона складаюць адносіны, якія ўзнікаюць у сувязі з устанаўленнем, змяненнем і адменай рэжыму камерцыйнай тайны, а таксама ў сувязі з прававой ахovай камерцыйнай тайны.

Пад камерцыйнай тайнай маюцца на ўвазе звесткі любога характару (тэхнічнага, арганізацыйнага, камерцыйнага, фінансавага і іншага), у тым ліку сакрэты вытворчасці (ноў-хау), якія адпавядаюць патрабаванням закона, адносна якіх устаноўлены рэжым камерцыйнай тайны.

Дакумент вызначае ўмовы ўзнікнення, змянення, спынення прававой аховы камерцыйнай тайны, патрабаванні да звестак, адносна якіх можа быць устаноўлены рэжым камерцыйнай тайны, замацоўвае прыкладны пералік звестак, якія не могуць складаць камерцыйную тайну.

Закон прадугледжвае меры па ўстанаўленню рэжыму камерцыйнай тайны, правы і абавязкі ўладальніка камерцыйнай тайны, рэгламентуе парадак доступу да яе, устанаўлівае асаблівасці яе аховы ў адносінах з контрагентамі і работнікамі.

Нарматыўна-прававым актам уносяцца істотныя змяненні ў палажэнні Грамадзянскага кодэкса:

нераскрытая інфармацыя выключаецца з аб'ектаў права інтэлектуальнай уласнасці, у іх ліку застаюцца сакрэты вытворчасці (ноу-хау), на якія, у той жа час, не распаўсюджваецца дзеянне выключнага права.

*БелТА.*

# Канфіскоўваць аўтамабілі ў нецвярозых кіроўцаў пачнуць ужо сёлета

**Пра гэта нядаўна паведаміў генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк.**



Складаная працэдура падрыхтоўкі законапраекта завершана, праект пададзены на разгляд кіраўніка дзяржавы. Пасля гэтага ён будзе ўнесены на разгляд дэпутатаў нацыянальнага схода, растлумачыў генпракурор.

«Пракуратура настойвае на тым, каб, як толькі ў чалавека за рулём пацвярджаецца факт алкагольнага ап'янення, транспартны сродак канфіскоўваць, а таксама выступае за ўзмацненне жорсткасці пры адказнасці за гібель людзей.

Аднак ўвасабленне ў практыку гэтых прапаноў будуць залежаць ад заканадаўцы», — падкрэсліў генпракурор.

Як паведамлялася раней, Генеральная пракуратура Беларусі сумесна з Міністэрствам юстыцыі падрыхтавала законапраект, у якім прапануецца канфіскоўваць аўтамабілі ў нецвярозых кіроўцаў толькі ў рамках крымінальнай адказнасці.

*БелТА*

# Са жніўня пачнецца паэтапнае адключэнне аналагавага вяшчання



**Пра гэта 10 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў дырэктар Беларускага радыётэлевізійнага перадаючага цэнтра Андрэй Кудырка.**

Ён удакладніў, што адключэнне аналагавага вяшчання пачнецца 1 жніўня са станцыі ў Асіповічах (Магілёўская вобласць). Затым да снежня будуць адключаныя яшчэ тры станцыі: адна ў Жлобіне (Гомельская вобласць) і дзве ў Магілёўскай вобласці.

Паводле слоў спецыяліста, выбар станцый быў зроблены ў адпаведнасці з дзейным частотна-тэрытарыяльным планам. «Мы зрабілі аналіз таго, наколькі эфектыўна і хутка можна вызваліць частотныя рэсурсы для ўкаранення наземнага камерцыйнага тэлевізійнага вяшчання. Аднак у метровым дыяпазоне на гэтых станцызах аналагавае вяшчанне захаваецца, і той, хто пакуль не гатовы да лічбавага вяшчання, зможа пераналстроіць тэлевізар ці пераарыентаваць свае антэны», — падкрэсліў Кудырка.

Паводле яго інфармацыі, на канец 2012 года ў Беларусі працуюць 64 тэлевізійныя станцыі, якія забяспечваюць зону ўпэўненага прыёму тэлесігналу 95,063% насельніцтва. «Кожны наступны працэнт вельмі дорага каштуе. Для яго забеспячэння неабходна ўводзіць шмат станцый», — зазначыў Кудырка.

Ён паведаміў, што ў 2013 годзе плануецца ўвесці ў эксплуатацыю 11 перадаючых станцый, што павялічыць ахоп насельніцтва тэлесігналам да 97,1%. У 2014–2015 гадах прадугледжваецца падключыць яшчэ 23 станцыі.

На забеспячэнне перадаючай часткі лічбавага вяшчання выдзелена 20 млрд. рублёў.

# З незамкнёнага аўтамабіля ў Браславе скралі 5 млн рублёў

7 студзеня ў Браслаўскі РАУС звярнулася 32-гадовая жанчына. Яна распавяла, што ў перыяд з 26 снежня па 7 студзеня невядомы з яе незачыненай аўтамашыны «Вольва-ХС90», што стаяла ў незачыненым гаражы ў двары дома, скраў 5 мільёнаў рублёў.

Супрацоўнікамі аддзела крымінальнага вышуку РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў жыхар Браслава, 1987 года нараджэння.

Заведзена крымінальная справа.

*kraj.by*

# Зацверджана праграма дзяржпадтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва на 2013-2015 гады

**У Беларусі зацверджана праграма дзяржаўнай падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва на 2013—2015 гады. Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Савета міністраў № 1242 ад 29 снежня 2012 года.**

Як паведамляе прэсслужба ўрада, дакументам вызначаны мерапрыемствы, скіраваныя на далейшае развіццё ў Беларусі асноўных відаў дзяржаўнай падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва. Галоўныя з іх — фінансавае, маёмаснае і інфармацыйнае забеспячэнне суб'ектаў, а таксама садзейнічанне беспрацоўным у арганізацыі ўласнай справы.

Падчас рэалізацыі праграмы будуць прынятыя меры па стымуляванні дзелавой актыўнасці, ухіленні адміністрацыйных бар'ераў, якія перашкаджаюць вядзенню бізнесу, а таксама павышэнню эфектыўнасці працы і далейшаму развіццю інфраструктуры падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

«Для дасягнення заяўленых мэт у 2013—2015 гадах павінны вырашацца задачы па ўваходжанні Беларусі ў лік перадавых краін па вядучых міжнародных рэйтынгах, якія характарызуюць канкурэнтаздольнасць, дзелавое асяроддзе, узровень інавацыйнага развіцця і эфектыўнасць дзяржаўнага кіравання. Гэта будзе спрыяць паляпшэнню міжнароднага іміджу і росту даверу ў нацыянальных і замежных інвестараў да эканамічнай палітыкі, што праводзіцца, — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы. — Праграма заклікана стаць асноўным дакументам урада, які вызначае далейшыя захады па лібералізацыі ўмоў вядзення бізнесу з улікам прыярытэтаў, замацаваных дырэктывай № 4 «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляванні дзелавой актыўнасці ў Рэспубліцы Беларусь».

Агульную каардынацыю і маніторынг выканання мерапрыемстваў праграмы ажыццяўляе Міністэрства эканомікі Беларусі, кантроль за эфектыўнасцю і аб'ёмамі выканання гэтых мерапрыемстваў на месцах — аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам.

*Андрэй Серада, БелаПАН.*



# У Мосары ўдзячнасць, памяць і малітва для святара:
## 3 гады таму спачыў ксёндз Пралат Юозас Булька



**Кс. Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар*

**Тры гады таму ў адной з мінскіх бальніц адышоў у вечнасць ксёндз Пралат Юозас Булька, які на працягу многіх гадоў нёс сваё служэнне ў мосарскай парафіі Віцебскай дыяцэзіі.**

Ксёндз Юозас Булька спачатку аднавіў касцёл і разам з вернікамі зрабіў адмысловы парк перад касцёлам, навёў парадак на могілках, і адбудаваў 14 стацый Крыжовага шляху – Мосарскую Кальварыю. Апроч гэтага ксёндз Пралат Юозас Булька пабудаваў касцёл у Варапаеве, больш за 100 прыдарожных фігурак і крыжоў, шмат гротаў Маці Божай. Дзякуючы яму Мосар сталі называць “Беларускай Венецыяй”.

У кастрычніку 2008 года ў Літве адбыўся “паклёп” на ксяндза, які моцна падарваў ягонае здароў’е.

На жаль, ксёндз Юозас Булька, які на працягу многіх гадоў нёс сваё служэнне ў мосарскай парафіі адышоў у вечнасць 9 студзеня 2010 года. Ён прапагандаваў здаровы лад жыцця, шмат зрабіў у справе барацьбы з алкагалізмам. Так у Мосары прадстаўнікамі клубаў ананімных алкаголікаў з Беларусі, Латвіі і Літвы была створана Алея цвярозасці. Шмат намаганняў прыкладаў ксёндз Юозас Булька і на добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол касцёла.

У 2005 годзе ксёндз Юозас Булька стаў першым каталіцкім святаром, які быў узнагароджаны прэміяй «За духоўнае адраджэнне». У 2006 годзе ўказам прэзідэнта ксёндз Булька быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны за ўмацаванне духоўных каштоўнасцяў і прапаганды здаровага ладу жыцця.

Вось і ў гэтым годзе мы молімся за памерлага ксяндза Пралата. Маліцца за яго будзем заўсёды… Памяць пра яго жыве ў нашых сэрцах і малітвах. Вялікую спадчыну заставіў нам гэты чалавек высакароднага сэрца, таму вернікі заўсёды з удзячнасцю, светлай памяццю і малітвай ушаноўваюць свайго душпастыра – ксяндза Пралата.

Ксяндза Юозаса шмат хто памятае як добрага, чулага і адданага душпастыра. Малітоўная лучнасць у дзень спачыну дазваляе нам трываць у духоўнай сувязі з ім. Маем надзею і веру, што сустрэнемся потым з ім у Нябеснай Айчыне.

Вечны адпачынак дай яму, Пане...

Падрабязная інфармацыя на сайце:

http://mosar.vickyblog.com




Ксёндз Юозас Булька нарадзіўся ў 27 снежня 1925 года ў Новасвянцянскім (Швянчоняляйскім) раёне ў в. Рыпайчай у сям’і селяніна. Да 1952 года працаваў пасля вайны ў прыватным сямейным маёнтку. Закончыў 6 класаў Кірдзейкскай пачатковай школы. Потым пераехаў у Вільню, дзе працягнуў навучанне ў вячэрняй школе і працаваў.

У 1958 годзе скончыў Віленскую сярэднюю школу працоўнай моладзі №8. З 1960 года па 1980 год працаваў на віленскай фабрыцы электрычных лічыльнікаў.

Пасля таго, як сышоў на пенсію, ён у канцы 1980-х гадоў пачаў працаваць пры касцёле Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Вільні кветкаводам і завочна вучыцца ў духоўнай семінарыі. Прыняў святарскае пасвячэнне з рук ксяндза біскупа Рамана Анджыеўскага ва Влоцлаўке 5 лістапада 1987 года.

Спачатку кс. Юозас дапамагаў у парафіі Майцягальскага касцёла Віленскага раёна, потым ён прыбыў у Беларусь і распачаў працу ў парафіі святой Ганны ў в. Мосар.



# Да 2015 года беларускія ўлады плануюць давесці долю малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП да 30%

**Да 2015 года беларускія ўлады плануюць давесці долю малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП да 30% і забяспечыць колькасць занятых у гэтым сектары да 1,8 млн чалавек. (Паводле звестак за 2011 год, унёсак беларускіх малых і сярэдніх прадпрыемстваў у ВУП складае 22,9%. — БелаПАН.).**

Такая задача ў ліку іншых вызначана праграмай дзяржаўнай падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва ў Беларусі на 2013—2015 гады, паведамілі ў прэс-службе Міністэрства эканомікі. Праграма зацверджана пастановай Саўміна ад 29 снежня 2012 года № 1242.

Сярод задач, устаноўленых у дакуменце, таксама развіццё канструктыўнага дыялогу дзяржавы з прадстаўнікамі бізнесу і грамадскімі арганізацыямі прадпрымальнікаў, удасканаленне дзяржаўнага рэгулявання ўмоў вядзення бізнесу. Апрача таго, для паляпшэння міжнароднага іміджу Беларусі і росту даверу да яе эканамічнай палітыкі ў нацыянальных і замежных інвестараў праграмай прадугледжана ўваходжанне рэспублікі ў лік перадавых краін па выдучых міжнародных рэйтынгах, што характарызуюць канкурэнтаздольнасць, дзелавое асяроддзе, узровень інавацыйнага развіцця, эфектыўнасць дзяржаўнага кіравання краіны.

Вырашэнне гэтых задач, згодна з дакументам, дазволіць стымуляваць дзелавую актыўнасць, ліквідаваць адміністрацыйныя бар'еры, што перашкаджаюць вядзенню бізнесу, а таксама павысіць эфектыўнасць функцыянавання і развіццё інфраструктуры падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

У ліку мерапрыемстваў дзяржпраграмы па падтрымцы малога і сярэдняга бізнесу апрача фінансавай, маёмаснай і інфармацыйнай дапамогі таксама пазначана развіццё ў краіне стартап-руху і стварэнне сеткі стартап-школ.

«Дакумент закліканы стаць асноўным праграмным дакументам урада, які вызначае далейшыя крокі па лібералізацыі ўмоў вядзення бізнесу з улікам прыярытэтаў, замацаваных дырэктывай прэзідэнта № 4 «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы», а таксама рэаліі гэтага часу», — падкрэслілі ў Міністэрстве эканомікі.

Праграма дзяржаўнай падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва ў Беларусі на 2013—2015 гады распрацавана на аснове закона «Аб падтрымцы малога і сярэдняга прадпрымальніцтва» і ўказа прэзідэнта Беларусі № 255 «Аб некаторых мерах дзяржаўнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва». Маніторынг выканання мерапрыемстваў праграмы будзе ажыццяўляць Міністэрства эканомікі, на месцах — аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам.

***Ганна Афоніна, БелаПАН.***

# Оршу і Полацк аб'яднаюць з іх раёнамі

**Гарады Оршу і Полацк аб'яднаюць з іх раёнамі. Адпаведны ўказ нумар 27 «Аб аб'яднанні раёнаў і гарадоў абласнога падпарадкавання Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр» Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў 14 студзеня, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.**

Дакументам прадугледжваецца аб'яднанне Аршанскага раёна і Оршы, Полацкага раёна і Полацка ў мэтах удасканалення сістэмы дзяржаўнага кіравання, забеспячэння комплекснага развіцця адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак базавага тэрытарыяльнага ўзроўню.

Перадумовы для такога аб'яднання склаліся на працягу шэрага апошніх гадоў. Так, у мэтах удасканалення кіравання рознымі сферамі жыццезабеспячэння насельніцтва адбылося зліццё ў адну арганізацыю агульных для раёна і горада ўстаноў аховы здароўя, экалогіі, сувязі, ваенных камісарыятаў, рэгіянальных падраздзяленняў МНС, судоў, натарыяльных кантор і іншых службаў.

Канцэнтрацыя матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў дасць магчымасць больш эфектыўна вырашаць пытанні развіцця вёскі, паляпшаць умовы дзейнасці суб'ектаў гаспадарання, а таксама больш аператыўна і комплексна вырашаць пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця гарадоў і раёнаў, што аб'ядноўваюцца. Гэта таксама дасць магчымасць аптымізаваць кіраўніцкія працэсы, скараціць выдаткі на ўтрыманне кіраўніцкага персаналу, забяспечыць для жыхароў горада і вёскі аднолькавы ўзровень даступнасці сацыяльнай інфраструктуры.


Орша

***БЕЛТА***

# Падайце мне каву на лёд!

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

З наступленнем стабільнага лёдаставу рыбаловы-аматары масава сталі наведваць вадаёмы нашага раёна. Практычна з першых дзён зімовай рыбалкі сталі ўзнікаць пытанні з нагоды арэнды вадаёмаў і збірання платы за аматарское рыбалоўства на арандаваных вадаёмах. Карыстаючыся тым фактам, што дзейнасць па скасаванне дамовы арэнды, шматлікія рыбаловы адмаўляюцца купляць у арандатараў пуцёўкі на платных вадаёмах, асобныя, патрабуюць падаць ім нават каву на лёд, персанальны туалет і шмат чаго іншага, ствараючы канфліктныя сітуацыі на роўным месцы. Як правіла, толькі пасля ўмяшання працаўнікоў інспекцыі арандатар вырашае канфліктную сітуацыю, нягледзячы на тое, што жыхары нашага раёна часта наведваюць вадаёмы нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры» і ніхто нават думкі не дапушчае рыбачыць без рыбалоўнай пуцёўкі, патрабаваць персанальны туалет або асобную стаянку. Усе купляюць пуцёўкі (60 тыс. рублёў на 1 дзень), таму што інспектары аховы парку, якія прыбылі, выпішуць штраф у памеры ад 10 да 50 базавых велічынь.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя чарговы раз паведамляе пра ўсе арандаваныя вадаёмы Глыбоцкага раёна, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства і неабходна набываць пуцёўкі.

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах:

**Карпінскае, Бярозаўскае** – арандатар фермерская гаспадарка «Карпікі», возера **Крывое** – арандатар ТАА «Сервік», возера **Чачалі** – арандатар ПП «Аграбізнескансалт», возера **Свядава** – арандатар СФГ «Свідава», азёры **Гулідаўскае** – арандатар ТАА «Старт» Мінскага раёна, возера **Падаута** – арандатар СФГ «Падауты» вадасховішча **«Азерцы»** – арандатар Дзяржаўнае прадпрыемства «Азерцы».

На ўказаных вадаёмах рыбаловам-аматарам, усім без выключэння, у тым ліку і мясцовым жыхарам, неабходна набываць пуцёўку на платнае аматарскае рыбалоўства, для мясцовых бясплатныя пуцёўкі. У выпадку адсутнасці пуцёўкі або адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаюцца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», г.зн., здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства). Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асобаў арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязковыя да выканання рыбаловамі, таму просьба быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

Набыць пуцёўкі можна: возера **Чачалі**, база адпачынку «Чачалі» – кругласутачна, азёры **Карпінскае і Бярозаўскае** – пры асабістым абыходзе арандатара вадаёмаў, возера **Крывое**, на базе адпачынку – кругласутачна, возера **Свядава** – пост аховы з боку аўтатрасы Глыбокае-Полацак, вадасховішча **«Азерцы»**, азёры **Гулідаўскае**, возера **Падаута** пры абыходзе прадстаўнікамі арандатараў. Указанымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выканaны неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі і іншых кантралюючых органаў патрабаванне да аказваемага пераліку паслуг арандатарамі будзе яшчэ больш жорсткім, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў. Сёлета зарыбленне вадаёмаў праведзена на возеры Чачалі – карп, шчупак, азёры Карпінскае і Бярозаўскае – шчупак, карась, белы амур, таўсталобік, возера Падаута – шчупак, карп, сом.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі па ўказаных ніжэй тэлефонах.

У наступішым годзе шмат стала грамадзян, якія ажыццяўляюць лоўлю рыбы з непадпісанымі ва ўсталяваным парадку жэрліцамі, карыстаючыся чуткамі, рыбаловы кажуць інспектарам, што подпіс жарліц адменены, але дзе яны гэта вычыталі, ніхто не паказаў. За лоўлю рыбы незарэгістраванымі жарліцамі прадугледжаны штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за аказваемую дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Выкарыстанне карцечы забаронена!

**В.Е. Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Скончыўся 2012 год, а з ім і некаторыя віды паляванняў, так, загоннае паляванне на лася, кабана, казулю еўрапейскую скончылася 30.12.2012 года. Паводле Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання Рэспублікі Беларусь з 01.01.2013 года па 30.04.2013 года дазволена паляванне на кабана, дазволены спосаб – з засады з вышак, паводле растлумачэнняў Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь паляўнічай вышкай прызнаецца любое адмыслова прызначанае для палявання збудаванне, стацыянарнае ці пераноснае, дзе паляўнічы знаходзіцца ў засадзе, размяшчацца на вышыні не ніжэй двух метраў над узроўнем зямлі. Яшчэ хацелася б нагадаць, што паводле Дадатку11 Првілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання Рэспублікі Беларусь стральба карцечай па дарослых жывёлах забаронена, карцечай можна страляць толькі кабаноў да двух гадоў, а дарослых толькі куляй. У выпадку выяўлення выпадкаў здабычы дарослых жывёл карцечай паляўнічыя будуць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, штраф ад 10 да 50 базавых велічынь з пазбаўленнем спецыяльнага права. Для паляўнічых, якія маюць наразную зброю, здабыча жывёл да двух гадоў дазволена зброяй з дульнай энергіяй звыш 1500 джоуляў, дарослых жывёл звыш 3000 джоуляў. У выпадку выяўлення фактаў здабычы жывёл зброяй не адпаведнай дульнай энергіі ствала, паляўнічыя таксама будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ад 10 да 50 базавых велічынь з пазбаўленнем спецыяльнага права.

Нароўні з паляваннем на кабана працягваецца паляванне на зайца-русака, зайца-беляка і пушныя віды дзічыны, паляванне сканчаецца ў апошнюю нядзелю студзеня. Андатру, норку амерыканскую – да 31 студзеня 2013 года ў светлы час сутак.

Нагадваем паляўнічым, што паводле Дадатка 11 Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання пры выкарыстанні стрэльбавага спосабу палявання дазваляецца выкарыстоўваць толькі шротавыя патроны, выкарыстанне карцечы забаронена. Паводле міждзяржаўнага стандарту ДАСТ 7837-76 памер карцечы пачынаецца дыяметрам 5,25 мм да 10,0 мм. У выпадку выяўлення ў ствалах карцечы дыяметрам 5,25 і вышэй паляўнічыя будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, якая прадугледжвае штраф ад 10 да 50 базавых велічынь з пазбаўленнем адмысловага права.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца па тэлефонах: 8-2156-28670 (кругласутачна), маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).

# Пра прафілактыку цеплатраўматызму персанала, які абслугоўвае цеплавыкарыстальныя ўстаноўкі

**Ю. А. Рацьковіч,**
*інспектар Глыбоцкага МРА філіяла «Энерганагляд».*

**На кожным прадпрыемстве, установе, арганізацыі, – маецца кваліфікаваны персанал, які займаецца абслугоўваннем і рамонтам абсталявання цеплавога пункта, вадападагравальнікаў, сістэм ацяплення і гарачага водазабеспячэння, трубаправодаў цеплавых сетак.**

Своечасовая праверка ведаў персанала па ПТЭ і ПТБ цеплавыкарыстоўваючых установак і цеплавых сетак, таксама як і правядзенне першасных, паўторных, пазапланавых, мэтавых інструктажоў па ахове працы і тэхніцы бяспекі, сістэматычныя супрацьаварыйныя трэніроўкі – накіраваны на папярэджанне і прадухіленне цеплатраўматызму.

Персаналу неабходна выконваць асаблівую асцярожнасць і памятаць пра меры бяспекі пры эксплуатацыі цеплаабсталявання і цеплавых сетак, асабліва пры выкананні рамонтных работ у іх. У асобаў, якія абслугоўваюць цеплавыкарыстоўваючыя ўстаноўкі і цеплавыя сеткі і допушчаных да выканання работ з павышанай небяспекай, павінны быць зроблены пра гэта запіс у пасведчанні пра праверку ведаў.

Работамі з павышанай небяспекай варта лічыць:
– земляныя;
– абслугоўванне сасудаў, якія працуюць пад ціскам;
– агнявыя і газанебяспечныя;
– работы на вышыні;
– працы з ужываннем ручных электрычных і пнеўматычных машын і т.п.

Персанал, які абслугоўвае абсталяванне ў газанебяспечных месцах, а таксама датыкальны са шкоднымі рэчывамі, павінен ведаць:
– пералік газанебяспечных месцаў у цэху;
– атрутнае дзеянне шкодных рэчываў і прыкметы атручвання імі;
– правілы вытворчасці работ і знаходжання ў газанебяспечных месцах;
– правілы карыстання сродкамі абароны органаў дыхання;
– пажаранебяспечныя рэчывы і спосабы іх тушэння;
– правілы эвакуацыі асобаў, якія пацярпелі ад шкодных рэчываў, з газанебяспечных месцаў і спосабы аказання ім даўрачэбнай дапамогі.

Персанал павінен працаваць у адмысловым ахоўным адзенні (бясплатна ў адпаведнасці з усталяванымі нормамі і характарам выкананых работ, прадстаўленых працадаўцам), зашпіленым на ўсе гузікі. На адзенні не павінна быць частак, якія раздзімаюцца, якія могуць быць захопленымі рухомымі (круцельнымі) часткамі механізмаў. Закасваць рукавы спецвопраткі і падхінаць халявы ботаў забараняецца. Увесь персанал павінен быць практычна навучаны прыёмам вызвалення чалавека, які патрапіў пад напругу, ад дзеяння электрычнага току і аказання яму даўрачэбнай дапамогі, а таксама прыёмам аказання даўрачэбнай дапамогі пацярпелым пры іншых няшчасных выпадках.

Работы, для якіх патрабуецца правядзенне тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы працоўных месцаў, указаныя ў П.27 ПТБ (іх 16 відаў), – неабходна выконваць толькі з афармленнем



нараду-допуску ўсталяванай Правіламі формы. Да такіх работ адносяцца:
– рамонт цеплавыкарыстоўваючых установак;
– установка і здыманне заглушак на трубаправодах (акрамя трубаправодаў вады з тэмпературай ніжэй 45 С°);
– урэзка гільзаў і штуцараў для прыбораў;
– рамонт трубаправодаў і арматуры без здымання яе з трубаправодаў;
– вывад цеплаправодаў у рамонт;
– гідрапнеўматычнае прамыванне трубаправодаў;
– выпрабаванне цеплавой сеткі на разліковы ціск і разліковую тэмпературу цеплаласбіта;
– работа ў камерах, калодзежах, трубаправодах, каналах; цеплаізаляцыйныя работы;
– зборка і разборка рыштаванняў і мацаванне сценак траншэй, катлаванаў;
– земляныя работы ў зоне размяшчэння падземных камунікацый і інш.

Падрабязна пра арганізацыйныя мерапрыемствы, якія забяспечваюць бяспеку работ, можна прачытаць у частцы 3 другога раздзелу Правіл тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплавыкарыстоўваючых установак і цеплавых сетак спажыўцоў.

Усе работы павінны выконвацца з ужываннем неабходных сродкаў індывідуальнай абароны (якімі кіраўнік прадпрыемства павінен бясплатна забяспечыць у адпаведнасці з усталяванымі нормамі і характарам выкананых работ).

Калі прадпрыемства працуе кругласутачна, то пры здачы змены адным работнікам іншаму, у абавязковым парадку адлюстроўваць пад роспіс у аператыўным журнале ўсе няспраўнасці ў цеплаўсталяванні, калі такія маюцца, з указаннем часу выяўлення няспраўнасці.

На кожным працоўным месцы павінны быць інструкцыі па эксплуатацыі і рамонце цеплавыкарыстоўваючых установак і цеплавых сетак, службовыя інструкцыі абслугоўвага персанала, інструкцыі па ахове працы.

